# Тыднёвік Магілёўскі

№ 7 (148) 15 – 21 лютага 2002 г. Кошт 100 руб.


## Трэба прадаваць, пакуль бяруць...





Фота IREX

*Канфэрэнцыя працоўнага калектыву аб'яднаньня "Хімвалакно" дала згоду на зьмену формы ўласнасьці прадпрыемства й падтрымала прапанову аб акцыянаваньні.*

*Падчас канфэрэнцыі працоўныя вылучалі самыя простыя патрабаваньні: не скарачаць рабочыя месцы, плаціць заробак без затрымак, захаваць сацыяльныя гарантыі. Магчыма, што сярод рабочых была загадзя праведзеная адпаведная тлумачальная праца, бо толькі адзін з удзельнікаў канфэрэнцыі выказаў насьцярожанасьць з нагоды раптоўнага і залішне хуткага працэсу акцыянаваньня. А можа абыякавасьць астатніх сьведчыць пра тое, што рабочыя дакладна ведаюць і разумеюць, што далей існаваць у дзяржаўным падначаленьні – значыць "загінуць" зусім.*

*Між тым, спэцыялісты лічаць, што такое буйное прадпрыемства, як "Хімвалакно", сапраўды павінна акцыянавацца як мінімум восем месяцаў, а не "да 15 сакавіка", як таго патрабуе ўлада. Спешка тлумачыцца нецярплівасьцю расейскіх інвэстараў, сярод якіх называюцца "Лукойл", "Сибур", "Итэра" і "Сургутнефтегаз".*

*Між тым, няма адказу на некаторыя юрыдычныя пытаньні. Напрыклад, незразумела, як аднясецца новы гаспадар прадпрыемства да сацыяльнай сфэры і яе аб'ектаў, а якіх зараз працуюць 2,5 тысячы чалавек. Невядома, што будзе з Заводам штучнага валакна, які ўваходзіць у склад аб'яднаньня. Ясна толькі, што прадукцыя прадпрыемства нікому не патрэбная. Увогуле завод працуе з значнымі стратамі. Але ўлада настойвае, каб аб'яднаньне "цягнула" завод і надалей, бо інакш тры з паловай тысячы рабочых апынуцца на вуліцы. Ці зможа ўлада дыктаваць тое самае прыватнаму гаспадару?...*

*У канцэрне "Белнафтахім", якому зараз "належыць" аб'яднаньне, лічаць, што з акцыянаваньнем тут нават спазьніліся. Сёньня прадпрыемства практычна ўжо выціснутае з рынкаў Заходняй Эўропы, Азіі ды Расеі: толькі летась экспарт скараціўся на 13 млн. даляраў. А штомесяцовы дэфіцыт зваротных сродкаў складае 25 млрд. руб. У такой сытуацыі ўся надзея – на інвэстараў, зразумела ж, расейскіх.*

*А працоўныя павінны задаволіцца тым, што ім дазволяць купіць акцыі прадпрыемства на агульную суму ня больш за 1 млн. руб. і па 80% ад наміналу.*

**Ганна ЮРЧАНКОВА**

## Наступны крок – 1 сакавіка

***Дэмакратычна настроеная магілёўская моладзь, большасьць якой належыць да Маладога Фронту, ўчора правяла першую дзею ў межах агульнарэспубліканскай акцыі "Беларусь – у Эўропу".***

Сьвяточна аздобленая з нагоды сьвята каханьня – дня Сьвятога Валянціна – калёна маладых людзей у колькасьці блізу 50 чалавек арганізавана прайшла па цэнтру горада, віншуючы па дарозе сустрэчных са сьвятам. На плошчы каля фантану ў сквэры імя Маневіча, насупраць будынку КГБ, моладзь выстройвалася ў жывыя эўрапэйскія зоркі, тым самым нагадваючы людзям зьмест, лёзунг і заклік акцыі "Беларусь – у Эўропу!".

Акцыя атрымае працяг 1-га сакавіка, калі будзе адзначацца Дзень Эўропы. Распрацаваную праграму сьвяткаваньня маладафронтаўцы трымаюць пакуль у сакрэце.

На момант падпісаньня "ТМ" у друк мы ня ведаем, ці былі ўчора якія непаразуменьні паміж удзельнікамі сьвяткаваньня і міліцыяй. Спадзяемся, што абыйшлося бязь іх.

***Уласная інфармацыя***

**СУД У ШКЛОВЕ**

## Ці будзе зроблены прэцэдэнт

***У сераду, 13-га лютага, пад старшынствам судзьдзі Халадцовай распачаўся судовы працэс над пяцьма актывістамі руху "Зубр".***

Маладзёнаў абвінавачваюць у парушэньні артыкула 368 Крымінальнага кодэксу: абраза прэзыдэнта РБ. Нагадаю, што 14-га жніўня мінулага году супрацоўнікі мясцовага РАУС затрымалі хлопцаў у вёсцы Гарадзец, дзе раней Лукашэнка кіраваў саўгасам. У аднаго зь іх была знойдзеная маска, якая чамусьці нагадала міліцыянтам твар кіраўніка дзяржавы, а таму яны палічылі гэта абразай на ягоны адрас. Тады ж была заведзеная крымінальная справа.

Падчас працэсу адчувалася разгубленасьць як судзьдзяў, так і сьведкаў. Гэта праявілася ў тым, што калі падсудны Паўловіч заявіў аб удзеле ў судзе свайго прадстаўніка С.Абадоўскага, то судзьдзя зрабіла перапынак на 45-50 хвілін, каб вынесьці вызначэньне ў... адмове. Таксама й сьведкі давалі вельмі блытаныя паказаньні, якія можна ахарактарызаваць проста: яны нічога не памятаюць. Дзяржаўная абвінаваўца Алданава не апытвала сьведкаў па сутнасьці, а рабіла акцэнт на тое, што маглі адчуваць людзі, гледзячы на вышэйзгаданую маску. Такім чынам можна было меркаваць, што пракурор паспрабуе даказаць віну хлопцаў ускоснымі фактамі. Дарэчы, некаторыя сьведкі ўвогуле сьцьвярджалі, што ня бачылі "зуброў" у масцы, а ўсе іхныя паказаньні на папярэднім сьледстве ўзятыя са словаў іншых людзей...

Падобнай справы, дарэчы, яшчэ не было ў гісторыі незалежнай Беларусі. Таму, калі прысуд будзе абвінаваўчым, то гэта стане небясьпечным прэцэдэнтам. Тады за "абразу прэзыдэнта" можна будзе прызнаць, напрыклад, неасцярожнае выказваньне ў людным месцы.

"ТМ" будзе працягваць сачыць за тым, што адбываецца на шклоўскім працэсе.

***Сяржук ГІРКІН***
***Фота Дзяніса НОВІКАВА***



## Новыя старыя вылучэнцы

***У вобласьці адбываецца шмат кадравых перасоўваньняў, якія праходзяць адначасна з скарачэньнямі ў апараце мясцовай "вэртыкалі".***

Першым намесьнікам старшыні аблвыканкаму стаў Аляксандар Шчарбакоў, які раней быў проста намесьнікам, а яшчэ раней займаўся жыльлёва-камунальнай гаспадаркай на розных пасадах. Зьмяніў ён на гэтай пасадзе Мікалая Жука, які перайшоў на пасаду старшыні абласнога савета дэпутатаў.

Захоўваецца тэндэнцыя пераезду магілёўцаў у сталіцу. Старшыня абласнога камітэту па будаўніцтве й інвэстыцыях Міхаіл Абрамчук стаў намесьнікам міністра будаўніцтва й архітэктуры. Мікалай Іванчанка, якога магілёўцы ўспрымалі як пераршага апавядальніка пра грандыёзныя праекты з расейцамі, будзе кіраваць Беларускім канцэрнам па матэрыяльных рэсурсах.

Кадравы пертрус адбываецца на тле абяцанага кіраўніцтвам краіны скарачэньня колькасьці чыноўнікаў. Наша вобласьць узяла на сябе ў гэтым павышаныя абавязацельствы: Барыс Батура выступіў з ініцыятывай скарачэньня "вэртыкальшчыкаў" не на 10, а на ...11 адсоткаў! У колькасьці "галоваў" гэта складзе 75 чалавек у абласным апараце. У гарвыканкаме скарацяць 40 чалавек, на 2 адзінкі тут стане меней намесьнікаў старшыні.

Скарачэньні, як усюды, суправаджаюцца скаргамі. Найбольш распаўсюджаная зь іх – скарга на тое, што не даюць дапрацаваць да пэнсіі тым, каму засталося да яе год-другі.

***Юлія ГАНІНА***



## Свой погляд на тыдзень воблясьці

**З 25-га па 28-га лютага ў абласным цэнтры адбудзецца фэстываль польскага кіно. Пакуль жа Польскі дом у Магілёве абвесьціў конкурс, пытаньні якога тычацца польскай школы мастацкага фільму. Пераможцаў чакаюць прызы, а найперш – больш шырокія гарызонты разуменьня культуры той часткі Эўропы, да якой геаграфічна належыць і Беларусь.**

У магілёўскім Доме цяжкай атлетыкі адкрыўся музэй фізычнай культуры й спорту – адзіны падобны ў нашай краіне. У ягонай экспазыцыі шмат узнагародаў, здабытых магілёўскімі спартоўцамі, а таксама фотаздымкаў і газэтных артыкулаў. На жаль, большасьць экспанатаў належыць мінуўшчыне, бо цяперашняя спартовая доля ня надта шчасьлівая. І краіна так паводзіць сябе, што няма гонару выступаць пад яе недарэчным сьцягам, і сацыяльна-эканамічныя перадумовы спартовых дасягненьняў адсутнічаюць у нас як зьява.

**Дзіцячыя садкі аб'яднаньня "Хімвалакно" урэшце перададзеныя ў камунальную маёмасьць. Адбылося гэта пасьля адпаведнага рашэньня аблвыканкаму. Гэта азначае, што нават такі эканамічны волат, як аб'яднаньне хімікаў, перастаў быць моцным прадпрыемствам. Лепш гэтым садкам ня стане, бо і дзяржава бедная. А ўвогуле, на думку незалежных спэцыялістаў, у хуткім часе колькасьць садкоў яшчэ больш скараціцца, а ў тых, якія застануцца, плата ўзрасьце.**

Кіраўнік упраўленьня адукацыі аблвыканкаму Валеры Багданаў прапанаваў "аптымізаваць расходы на харчаваньне навучэнцаў прафтэхвучэльняў". Паколькі сродкаў зараз няма, чыноўнік мяркуе такім чынам "аптымізаваць" сёньняшняе трохразовае харчаваньне, каб яно засталося такім толькі для сіротаў, інвалідаў і маламаёмасных грамадзянаў, але з 50% аплатай. Астатніх жа ён прапануе падсілкоўваць толькі раз на дзень.

**У Магілёве сёлета павінен адкрыцца Цэнтар крызыснай дапамогі. У ім будуць працаваць псыхолягі й мэдыкі, а нават можна будзе на некаторы час прыняць чалавека пажыць, калі яму няма куды ісьці. Трэба заўважыць, што добрая праца такога Цэнтру будзе залежаць і ад такога складніку, як фінансовае забесьпячэньне. А вось калі сам Цэнтар стане працаваць у якасьці своеасаблівай платнай паслугі (што цалкам магчыма ў нашых умовах), то наўрад ці ён выканае сваю высакародную місію.**

У абласным цэнтры адбыўся чарговы прэс-клюб, наладжаны Міжнароднай фінансовай карпарацыяй. Усе выступоўцы казалі, што трэба ў беларускай эканоміцы ўсталяваць правілы вольнага гаспадараньня. Нават чыноўнікі давodзілі, што бяз пэўных рашучых крокаў па вызваленьню эканомікі краіне ня выжыць. Пры гэтым яны спасылаліся на адпаведныя намеры, якія абяцаў ажыцьцявіць кіраўнік дзяржавы. Аднак ніхто зь іх ня здолеў паведаміць, калі ж гэта адбудзецца. Магчыма, таму, што ніхто й ня ведае. Ці, наадварот – усе ведаюць, што гэта пустыя абяцанкі. Я, прынамсі, ня ўпэўнены, што эканамічная лібэралізацыя стане фактам рэальнага жыцьця.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*



# Палітыка, што вядзе ў тупік

***Лукашэнкаўская Беларусь, як вядома, супрацьстаіць любым спробам Захаду хаця б крышачку зрушыць яе па шляху дэмакратыі. Што ж усё-ткі можа зрабіць Захад, каб аспрэчыць гэтую тэндэнцыю? Гэтую тэму абмяркоўваюць супрацоўнік амэрыканскага кансэрватыўнага дасьледчага цэнтру Heritage Foundation Арыэль Коэн і ўплывовы нямецкі палітоляг Аляксандар Рар.***

**Коэн:** Зьмена рэжыму залежыць ад моцы ўнутранай апазыцыі. На жаль, у 2001г. у Беларусі гэтага не назіралася. Таксама трэба заўважыць, што нягледзячы на тое, што Амэрыка безумоўна падтрымала б дэмакратычную ініцыятыву ў Беларусі, гэта не было прыярытэтам амэрыканскай зьнешняй палітыкі. Так што нам, відаць, прыйдзецца пачакаць да наступнага разу. Але і тады вынік будзе залежаць ад таго, ці будзе беларускае пытаньне ў сьпісе прыярытэтаў ЗША.

*– Вядома, што палітыка ціску на рэжым можа быць эфэктыўнаю толькі ў тым выпадку, калі праводзіцца ўзгоднена Амэрыкай і Эўропай...*

**Коэн:** Я ня думаю, што ЗША прымуць санкцыі супраць Беларусі, бо адміністрацыя Буша вельмі неахвотна ідзе на такі крок, калі жыцьцёвыя інтарэсы Амэрыкі не пастаўленыя на карту. У выпадку Беларусі я ня бачу такой пагрозы. ЗША вельмі хацелі б, каб эўрапейскія краіны, асабліва Нямеччына, праводзілі больш жорсткую палітыку ў адносінах да Менску.

*– Пасьля выбараў Лукашэнка нічога не зрабіў, каб скарыстацца чарговым запрашэньнем Эўропы да дыялёгу. Узьніклі прэтэнзіі да мандату КНГ АБСЭ, пытаньн аб новым кіраўніку місіі зайшло ў тупік...*

**Рар:** Мы ў Заходняй Эўропе атрымлівалі шмат сыгналаў зь Менску, што пасьля свайго пераабраньня беларускі прэзыдэнт зьменіць палітыку і пойдзе на паляпшэньне адносінаў з ЭўраЗьвязам. Але чакалі мы дарэмна. Чаму? Цяжка на гэта адказаць... Сёньня, дарэчы, і Расея чакае на канкрэтныя крокі Лукашэнкі. Аднак, на жаль, далей спадзяваньняў на дазвол для расейскага бізнэсу дзеіць на беларускім рынку – не ідзе.

*– А можа стацца так, што Эўропа, стаміўшыся ад спробаў разгадаць загадку "беларускага сфінксу", проста перастане зважаць на нашую краіну?*

**Рар:** Такая палітыка да дабра не прывядзе. Палітыка ізаляцыі – гэта ня шлях у будучыню. Гэта шлях да далейшых эканамічных цяжкасьцяў, а магчыма і катаклізмаў. Таксама мне падаецца, што канчаткова ізаляваць краіну і ад Захаду, і ад Расеі Лукашэнка ўсё ж ня здолее.

***Юры ДРАКАХРУСТ***

# Ілюзорныя надзеі

***Надзея на тое, што Масква хутка зробіць пэўны ціск на афіцыйны Менск, каб прымусіць яго пайсьці на кантакт з Эўропай, – ілюзорныя.***

Такую выснову зрабілі днямі нямецкія назіральнікі ў часе нямецка-беларускай канфэрэнцыі ў мястэчку Бруль паміж Кёльнам і Бонам. Найбуйнейшая за ўсю гісторыю нямецка-беларускіх стасункаў сустрэча мела назву "Новая беларуская палітыка Нямеччыны". У імпрэзе бралі ўдзел больш за 300 прадстаўнікоў палітычных, грамадзкіх і навуковых колаў Нямеччыны, студэнты і журналісты, а таксама прадстаўнікі афіцыйнага Бэрліну і Менску.

Было зазначана, што дачыненьні беларускага рэжыму з Эўропай надзвычай складаныя і няпэўныя. Як заўважыў адзін зь нямецкіх журналістаў, "гэта нагадвае працэс, які ў дыпляматычных колах называюць ледавіковым пэрыядам". Цягам спатканьня высьветлілася, што ўсё менш нямецкіх палітыкаў, аналітыкаў і журналістаў захоўваюць нейкія надзеі на тое, што неўзабаве Крэмль паспрабуе зрабіць пэўны ціск на Лукашэнку дзеля дэмакратызацыі Беларусі. Як піша нямецкі друк, расейскаму кіраўніку не патрэбная нейкая новая пэрсона ў Менску, якая магла б дэнансаваць былыя пагадненьні. Паводле аўтарытэтнага нямецкага журналіста Маркуса Вэнэра, нягледзячы на тое, што паміж Пуціным і Лукашэнкам назіраюцца не найлепшыя дачыненьні, крамлёўскі лідэр можа вельмі глыбока схаваць свае эмоцыі дзеля дасягненьня пэўных палітычных і эканамічных мэтаў.

***Алена ПАНКРАТАВА***




Фота IREX

# Улада ўсё ведае сама

***На мінулым тыдні ў Менску адбылася міжнародная канфэрэнцыя пад назвай "Фармаваньне грамадзкай думкі й публічнай палітыкі ў Беларусі".***

Арганізатарамі выступілі Беларускі незалежны Інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, амэрыканскі фонд McArthur's Foundation і Кансультацыйна-назіральная групай АБСЭ ў Беларусі.

Апрача вядомых беларускіх дасьледчыкаў, апазыцыйных палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў, у працы канфэрэнцыі ўзялі ўдзел кіраўнікі вядомых дасьледчых інстытутаў з Польшчы, Украіны, Расеі, Літвы й Латвіі. Дырэктар Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Алег Манаеў паведаміў, што мелася на мэце арганізаваць спатканьне, падчас якога прадстаўнікі ўлады і апазыцыі ў прысутнасьці замежных гасьцей паразмаўлялі б на тэму: куды ісьці Беларусі.

Аднак дыскусіі не атрымалася. Запрошаныя з боку ўлады чыноўнікі, сярод якіх былі кіраўнік адміністрацыі Лукашэнкі Ўрал Латыпаў, міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны, прэзыдэнт Акадэміі навук Міхаіл Мясьніковіч, на канфэрэнцыю не прыйшлі.

Прысутны на канфэрэнцыі амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак выказаў вялікую занепакоенасьць ураду Злучаных Штатаў з нагоды намеру беларускага кіраўніцтва ўвесьці ліцэнзаваньне асобаў і арганізацыяў, якія займаюцца вывучэньнем грамадзкай думкі. "Мы лічым, што гэта будзе вялікім крокам назад на шляху стварэньня ўмоваў для нармальнай працы вольных СМІ й адкрытага, празрыстага мэханізму палітычных дыскусіяў у краіне", – заявіў ён.

***Альгерд НЕВЯРОЎСКІ***

# ...Таму й трэба разам

***На мінулым тыдні ў Маскве прайшла міжнародная канфэрэнцыя "Улада прэсы і прэс улады", у якой бралі ўдзел прэзыдэнт БАЖ Жана Ліцьвіна і лідэр АГП Анатоль Лябедзька.***

Арганізавалі форум Саюз правых сілаў Расеі й Гарвардзкі ўнівэрсытэт. Падчас абмеркаваньня Ж.Ліцьвіна заявіла, што ў Расеі шмат у чым дублюецца "беларуская мадэль стасункаў прэсы і ўлады". Яскравыя прыклады тут – сытуацыя з НТВ, а потым і з ТВ-6. Увогуле, лэйтматыў усіх выступаў можна было сфармуляваць прыблізна так: у часы Ельцына ў Расеі пачала фармавацца сыстэма непадкантрольных уладзе мэдыяў, аднак пры Пуціне працэс рухаецца ў дыямэтральна іншым кірунку.

Прадстаўнікі расейскай "правых" распавядалі на канфэрэнцыі, што сёньня галоўны прынцып падзелу журналістаў у іхняй краіне – гэта "служыш ты Пуціну, ці не".

А вось міжнародныя экспэрты, якія працавалі на канфэрэнцыі, адкрыта папярэдзілі ўсіх удзельнікаў, што ва ўмовах прадэкляраванага стратэгічнага партнэрства Расеі й Захаду ня варта чакаць цяпер значнай рэакцыі заходняй грамадзкасьці на факты перасьледу незалежных СМІ ў Расеі.

***Юрась КАРМАНАЎ***

## ЁСЬЦЬ ТАКІ РАЁН У НАС – КРУГЛЯНСКІ

# Адкуль камісія?..

***Здаецца, што мястэчка гэтае разьмешчанае ня так далёка ад абласнога цэнтру і менскай шашы, каб лічыцца "мядзьвежым кутам". Аднак інфармацыя з гэтага раёна, у прыватнасьці, у нашай газэце зьяўляецца надзвычай рэдка. З гэтага вынікае, што вядомасьць ці занядбанасьць места вызначае не "геаграфія" як такая, а стыль і зьмест мясцовага жыцьця, якія ў сваю чаргу залежаць ад узроўню кіраўніцтва і наяўных у складзе адміністрацыі раёна канкрэтных пэрсаналіяў. Дый што тычыцца Круглага, не было ў нас адтуль "інфарматараў", не чуваць было пра якія тутэйшыя грамадзка-палітычныя рухі і падзеі... Але вось, здаецца, надакучыла гэтаму раёну сядзець у ценю. Днямі "Тыднёвік" атрымаў адтуль цэлы інфармацыйны пакет, зь якога падае ў гэтым нумары практычна ўсе дасланыя матэрыялы. Некаторыя з тэмаў нашым сталым чытачам не пададуцца новымі. Аднак жа новае ў матэрыялах тое, што яны – з Круглага. А гэта, на нашую думку, апраўдвае рэдакцыйную да іх спагадлівасьць.***



У нашым невячкім гарадку многія маладыя людзі, ня маючы жыцьцёвых пэрспэктываў, вымушаныя былі распачаць прыватнае прадпрымальніцтва. Амаль усе "прыватнікі" – гэта дробныя гандляры, бо іншых, найперш вытворчых, пэрспэктываў у раёне таксама няма. У выходныя дні на мясцовым кірмашы – сотні людзей, гараджанаў і вяскоўцаў, гасьцей з суседніх раёнаў. Тут можна адносна танна (у параўнаньні зь дзяржаўнымі крамамі) набыць і прадукты харчаваньня, і адзеньне, і абутак, і гаспадарчыя прылады.

Я ж гэтым разам пайшоў на кірмаш у будзённы дзень, бо ўсяго й патрэбы меў, што набыць батарэйку для гадзіньніка. Набыў, расплаціўся, падзякаваў, пажадаў пасьпяхова распрадаць тавар – а ў адказ ад прадаўца пачуў, што яму часьцей даводзіцца дэманстраваць "дакумэнты, а не тавар". Якія дакумэнты, каму? Ды правяраючым, вядома, якіх процьма. Майму выпадковаму суразмоўніку-гандляру іншым разам выпадае дзень, калі даводзіцца прад'яўляць асабістыя й самыя разнастайныя іншыя "гандлёвыя" дакумэнты інспэктару гандлю, падатковаму інспэктару, кантралёру рынку, санінспэктару, інспэктару па цэнах, супрацоўніку райспажыўсаюзу, афіцэру ОБЭП, афіцэру фінансовай міліцыі, сябру камісіі райвыканкаму...

Вось тут я яго спыніў: што за камісія? Бо ўсе пералічаныя вышэй пасадавыя асобы сапраўды маюць права па законе правяраць ягоную дзейнасьць (хаця, зразумела, пажадана, каб рабілася гэта "плянава" ды ненавязьліва), а вось пра камісію пачуў упершыню. Высьветлілася, што камісія гэтая свая, раённая, родненькая, райспажыўсаюзаўская. Узьнікла яна нядаўна, у сувязі зь перадачай рынка ў падначаленьне гэтаму самаму спажыўсаюзу. А як пачынае новую дзейнасьць любая наша арганізацыя? З утварэньня камісіі, вядома. Вось і ходзяць па рынку з сумным (ці адказным) выглядам на твары "члены" гэтай



камісіі й правяраюць, адрываючы людзей ад справы, усё, што захочуць. Прыкладам, захацелася ім праверыць "санітарныя нормы" – правяраюць. Якім чынам, бо ніхто зь іх ніякі не санітар? А такім: давай сюды, даражэнькі, адпаведны сэртыфікат якасьці тавара! Яго выдаюць адпаведныя службы на тэрмін ад 2-х да 6-ці месяцаў. Чаго глядзець на яго кожны дзень!? Камісія ведае, чаго (дый прыватнік, калі сказаць шчыра, таксама гэта ведае). Пры гэтым сама камісія ня мае на руках, як таго патрабуе закон, прадпісаньня з указаньнем прозьвішчаў правяраючых ды іхных паўнамоцтваў, кірунку і характару інспэкцыі, а тое і службовых пасьведчаньняў. Затое ледзь што ня так – атрымай, прыватнік, акт! Ну, а пасьля 3-х актаў гандлёвую кропку можна й зачыняць...

Адкуль жа такая нялюбасьць да прыватнага гандлю, які добра абслугоўвае людзей і дае, між іншым, неблагія прыбыткі ў раённы бюджэт? Ад рэўнасьці райспажыўсаюза да больш пасьпяховых канкурэнтаў. Кіраўнічка гэтай дзяржаўнай арганізацыі Яўгенія Бабкова неяк адкрыта прызналася, што стаіць "на защите прав советских людей". Ёй вельмі не падабаецца, што прыватнікі "нажываюцца", бо гандлююць тым таварам, на які ёсьць попыт, у той час, як спажыўсаюз вымушаны браць на сябе гандаль віламі ды граблямі. А што тычыцца тых самых сэртыфікатаў, дык прыватнікі, – упэўненая Яўгенія Ўладзімераўна, купляюць іх разам з таварам, а не набываюць афіцыйным шляхам...

На гэтым жа тыдні давялося наведаць і дзяржаўную краму. Захацелася набыць цукерак. Сам ня ведаю чаму, папрасіў прадавачку паказаць сэртыфікат якасьці тавару. Яна патлумачыла мне, што ўсе паперы знаходзяцца "на базе", і калі мне цікава іх паглядзець, яна пачакае, пакуль я зьбегаю на другі канец Круглага. Мне гэтага не захацелася. Як і тых цукерак...

***Алесь БУЛАЎКІН***

# Здабыткі мясцовага вынаходніцтва

### ...У аплаце за цяпло

Цяпер крыху пацяплела на вёсцы. А студзень сапраўды быў студзёным. Хаця ў многіх хатах вёскі Грыбіна, дзякуючы надзейна працуючай кацельні, было цёпла. Задрыжалі вяскоўцы зараз, калі атрымалі квітанцыі на аплату студзенскага ацяпленьня. З большасьці ўладальнікаў дамоў запатрабавана ажно ад 30 да 40 тысячаў рублёў. А гэта ўвесь месяцовы заробак "сярэдняга" вяскоўца, які, дарэчы, ніхто яшчэ за студзень не атрымаў, бо грошай у калгасе няма. Плату за ацяпленьне раённыя камунальнікі падвысілі нечакана й безь якіх тлумачэньняў. Найбольш цікаўным патлумачылі, што цяпер на вёсцы ўведзены новы тарыф і новыя правілы. Раней, таксама як у горадзе, плацілі за "квадратныя мэтры", а цяпер трэба плаціць "за аб'ём" хаты. Што гэта такое, як гэта падлічваецца – засталося невядомым. Мне, напрыклад, камунальнікі паказалі "Инструкцию по определению расчётов..." ад 1975 году (!). Разабрацца ў ёй зможа толькі чалавек з грунтоўнай эканамічнай адукацыяй. А калі хто не разьбярэцца (ды й навошта гэта вяскоўцу), а тым больш – не заплоціць, "ацяпленьне, – паабяцалі камунальнікі, – адключым".

### ...У аплаце за працу

Днямі ў калгасе "Свабода" нарэшце выплацілі заробак за леташні сьнежань. Аднак грошай ніхто з калгасьнікаў ня ўбачыў. Заробак вынаходлівая адміністрацыя выплаціла людзям грэчкай. Што й казаць, крупа каштоўная, смачная, карысная. Аднак жа ўсе чакалі грошай, бо апошнім разам бачылі іх даўно. Яшчэ крыху – і людзі забудуцца, як выглядаюць тыя паперкі... У той жа час калгасьнікі нашыя да ўсяго хутка прыстасоўваюцца. У вёсках зараз выпрацаваная дакладная сыстэма "натуральнага абмену". Напрыклад, бохан хлеба (на "вясковым рынку", зразумела) каштуе 1kg грэчкі. За балён газу даводзіцца адсыпаць 10 kg. У адпаведнасьці зь якасьцю, знойдзенае рашэньне ў аплаце "за гаручае". А вось як быць з аплатай паслугаў дзяржаўных установаў – пакуль невядома, бо паштавікі, мэдыкі й камунальнікі грэчкай не бяруць...

***Сяргей САП***

## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Магчыма, падмога прыйдзе з абласьцей

***Курапаты павінны мець статус гісторыка-ляндшафтнага помніка найвышэйшай катэгорыі й быць пад аховай дзяржавы.***

Так лічаць аўтары канцэпцыі мэмарыялізацыі Курапатаў, сябры грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты". Паводле гэтай канцэпцыі, патрэбна дакладна абазначыць тэрыторыю лясного масіву, усталяваць агароджу, узвесьці ўваходныя брамы, пры якіх мець ахову.

Усталяваны ва ўрочышчы ў 1989г. Крыж Пакутаў застаецца дамінантай будучага мэмарыялу. Цалкам некранутымі варта пакінуць ямы-пахаваньні, бо яны найбольш моцна ўзьдзейнічаюць на сьвядомасьць людзей. Аўтары канцэпцыі мяркуюць, што ня трэба ўзводзіць нейкі вялікі комплекс з мэталу ці бэтону, або нават храм. Музэй з храмам, на іхную думку, трэба пабудаваць па-за тэрыторыяй ахоўнай зоны.

Па словах аднаго з распрацоўшчыкаў канцэпцыі, культуроляга Вацлава Арэшкі, мэмарыялізацыя Курапатаў можа быць толькі паэтапнай. Спачатку трэба максымальна захаваць тое, што ўжо існуе – алею і крыжы. Але галоўная задача – дамагчыся таго, каб усё беларускае грамадзтва ўзяло ўдзел у абмеркаваньні праблемы, каб яна не была болем параўнальна вузкага кола беларускіх патрыётаў і навукоўцаў.

Першае, што заўважаеш, падыходзячы да Курапатаў – гэта бел-чырвона-белы сьцяг, усталяваны ля намёту валанцёраў.

Колькі дзён таму ў лягеры правялі ноч разам з маладымі абаронцамі трое кіраўнікоў абласных арганізацыяў Партыі БНФ: Анатоль Фёдараў, Мікола Байсюк і Валянцін Баранаў. "Мы вырашылі, – сказалі яны карэспандэнту радыё "Свабода", – што не павінны быць у баку. Усё Адраджэньне ў Беларусі пачалося з Курапатаў і Зянона Пазьняка". Кіраўнікі фронтаўскіх арганізацыяў таксама паабяцалі разгледзець магчымасьць сталага валанцёрства ў Курапатах сваіх сяброў.

**Анатоль Фёдараў вынясе гэтае пытаньне на абласную справаздачную канфэрэнцыю, якая адбудзецца ў бліжэйшую нядзелю.**

Трапіць у лягер валанцёраў цяпер вельмі складана – наўкол бездарожжа.

Падземны пераход яшчэ не дабудаваны, ногі тонуць у сьлізкай гліне, паўсюль лужыны. Ля свайго намёту валанцёры выкапалі канавы, каб не залівала вадой. Цяпер, на жаль, амаль усе маладыя хлопцы ў лягеры хварэюць на грып. Яны спрабуюць перамагчы хваробу з дапамогаю ўжываньня цыбулі ды часныка.

***Ганна СОУСЬ***

## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ

***У выніку перарэгістрацыі сябраў мясцовай філіі Беларускага Хельсінскага Камітэту сваё сяброўства ў арганізацыі пацьвердзілі толькі два чалавекі.***

Астатнія пяць па-сутнасьці адмовіліся ад праваабарончай дзейнасьці. Па іхных словах, прычына адмовы – падзеньне даверу як да асобных кіраўнікоў, так і да ўсяго БХК, а таксама адарванасьць нізавых структураў ад цэнтру. Акрамя таго, яны былі незадаволеныя нізкай эфэктыўнасьцю сваёй працы.

***Мясцовыя арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і "Народнай Грамады" правялі кансультацыі на тэму будучых выбараў.***

Падчас сустрэчы абмяркоўваліся пытаньні высоўваньня кандыдатаў у дэпутаты, а таксама тэхналёгіі прадухіленьня выбарчых фальсыфікацыяў. Трэба адзначыць, што сябры абедзьвюх партыяў плянуюць актыўна ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы.

***Група мясцовай моладзі, якая ўваходзіць у аб'яднаньне "Моладзь АГП", паехала на працу ў Кіеў.***

Маладыя палітыкі будуць дапамагаць блёку Віктара Юшчанкі падчас парлямэнцкай выбарчай кампаніі на Ўкраіне. На іхную думку, гэтая праца дасьць ім важкі вопыт для ўнутрыбеларускай палітычнай барацьбы.

***Запазычанасьць па выплаце заробкаў у раёне на сёньня складае 797 мільёнаў рублёў.***

Мясцовыя "гіганты прамысловасьці" – завод гумавых вырабаў і прадпрыемства "Крычаўцэмэнтнашыфэр" вінныя крэдыторам больш за 700 і больш за 350 мільёнаў рублёў адпаведна. Кіраўніцтва раёну спадзяецца выправіць становішча праз татальную эканомію бюджэтных сродкаў і маштабнае скарачэньне расходаў на прадпрыемствах.

***Мясцовае незарэгістраванае выданьне "Маладзёжны кур'ер" атрымала па пошце дыплём, які быў адасланы ў лістападзе мінулага году!***

Такім чынам стала вядома, што выданьне было адзначана на конкурсе школьных і вучнёўскіх газэтаў, які праводзіўся летась Рэспубліканскім грамадзкім аб'яднаньнем "Таварыства беларускай школы". Застаецца дадаць, што на конкурсе ацэньвалася больш за 30 незарэгістраваных моладзевых выданьняў з усёй краіны.

***Андрэй КУЗЬМІН***



МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Крыж мастака

***У выставачнай залі па вуліцы Болдзіна адбылася чарговая гадавая выстава магілёўскіх мастакоў. Малая колькасьць прэзэнтаваных аўтараў засьведчыла аб нялёгкіх часах для нашага мастацтва, аднак некаторыя творцы і ў гэткіх умовах знаходзяць новыя далягляды. Распавяду аб іх.***

З карцін А.Ціткова вылучаецца "Алея", зробленая ў клясычным сюрэалістычным стылі, але зь вельмі складанымі й дэталёва распрацаванымі вобразамі-"перавёртышамі". Творы Ларысы Журавовіч наводзяць на думку, што ў правінцыйнай глыбінцы для мастака ёсьць выгоды – сьвежае паветра, вясковыя краявіды й простыя, вечныя аб'екты для нацюрмортаў. Гарадзкія мастакі ўжо даўно не малююць хлеб, малако, грыбы ды яйкі. Несьцярук, Рабчонак, Арасланаў і Сувораў любяць пэйзажы й фантазіі на тэму Старога гораду. Прычым А.Сувораў любіць ня толькі стары горад, якога ўжо няма, але й сваіх рыцараў і блазнаў, якіх мо' ніколі й не было.

Вызначыўся на выставе Рыгор Шараў, які нарэшце разьвязаў праблему тэалёгіі: якога полу анёлы. Айцы-багасловы схіляліся да думкі, што – ніякага. Але памер цыцак Рыгоравага "анёла" не пакідае сумненьняў у тым, што фэміністкі й трансвэстыты дабраліся ўжо й да нябёсных сфэраў.

На гэтым фоне ніяк ня можа вызначыцца В.Юркоў. Бурліць і пэніцца шмат гадоў стыхія ягоных пэйзажаў, і з таго хаосу не выходзіць чагосьці канкрэтна-асязальнага. Як, скажам, у Ляніны Сіпаковай, якая проста ўзяла бацькоўскую спадчыну ў выглядзе савецкіх манэтаў й кінула іх на палатно разам з старымі партманэ. Канкрэтна, катэгарычна й... нядорага. Дадаць бы на палатно яшчэ й дзедаўскіх залатовак, і кошт карціны значна ўзьняўся б.

Але ёсьць і неўміручыя каштоўнасьці, напрыклад – балота. Які ж беларус без балота? І хоць на далягдядзе карціны В.Рабчонка мрояцца горы (ці не Каўказ?), пярэдні плян супакойвае: на ім нашае дрыгвістае й топкае балота, на якім ніякі чачэн ня выжыве... Ёсьць цікавыя моманты і ў скульптурах У.Пахаўцова. Ягоны Кароль Лір (вельмі падобны да З.Пазьняка) здымае сваю карону ў вялікім задуменьні: відаць, шкадуе, што няма каму яе аддаць. Вечныя палітычныя пытаньні, вечныя беларускія сумненьні... Больш радыкальна вырашаны аўтарам вобраз Сізыфа. Каб бясконца не катаць свой камень угару, той... праламаў яго галавой, і такім рэвалюцыйным чынам перакраіў антычную легенду.

Пасьля ўсяго гэтага нават Ігар Бяспалаў (магілёўскі "Ван Гог") выглядае традыцыйна. Хаця сінім валасам ягонай "Дамы з рамонкамі" мог быць пазайздросьціць і вялікі галяндзец, але ня нашыя панны. Яны даўно ўжо выбіраюць колер сваіх фрызураў сьмялей за самых авангардных калярыстаў. Тым больш звычайна выглядаюць вясёлкавыя "райскія гушчары" на габеленах М.Несьцярук і простыя пэйзажы, што традыцыйна прысутнічаюць на беларускіх выставах. З агульнага шэрагу я б вылучыў Базыля Камарова, які акрамя сваіх узьнёсла-рамантычных краявідаў старадаўняга Магілёву, паказаў і новыя работы.

Цьвіком выставы я б назваў ягоны "Аўтапартрэт" – гэткую алегорыю лёсу мастака ў сёньняшнім часе. Мастак басанож нясе па жыцьці сваё люстэрка, у якім адбіваюцца любімыя вобразы роднага гораду, сьветлыя ўспаміны, творчыя памкненьні. Мінулае ўяўляецца яму прыгожым і рамантычным, будучыня – пагрозьлівай і цьмянай. Але справа ў тым, што хутка ўсе мы можам застацца без парткоў, і толькі творчыя задумы ды чароўныя ўспаміны дазваляюць годна трымацца на плыні жыцьця.

Як працяг – узьнікае трыпціх "Сэнсавызначэньне быцьця", дзе ў філязофскай форме паказанае несупадзеньне жаданага і рэальнага. Зерне, кінутае на камень – ня ўзыйдзе. Дрэва, пазбаўленае глебы – загіне. Разрыў між нябёсным і зямным вядзе ў чорную бездань небыцьця. Роля мастака – зьвязаць канцы, ня даць чалавеку зьнікнуць бязь сьледу й памяці.

Крыж мастака нялёгкі...

***Васіль АЎРАМЕНКА***

## ШТО НА ТЫДНІ... У ГЛУСКУ І ЧЭРЫКАВЕ



***У мясцовым навучальна-вытворчым камбінаце зьявіўся кампутар. Цяпер навучэнцы змогуць вывучаць правілы дарожнага руху пры дапамозе сучасных праграмаў.***

За апошнія гады кампутары былі ўстаноўленыя ў банкаўскіх аддзяленьнях, у больніцы, на дрэваперапрацоўчым заводзе, у аддзеле народнай адукацыі райвыканкама, у школах, у раённым вузле сувязі, у цэнтральнай і дзіцячай бібліятэках, а таксама ў рэдакцыі афіцыйнай газэты "Радзіма", судзе і падатковай інспэкцыі.

На жаль, дагэтуль ня вырашаная праблема абслугоўваньня і рамонту кампутарнай тэхнікі. Няма ў раёне й ніводнага пункту калектыўнага карыстаньня Інтэрнэтам, няма й курсаў, дзе можна навучыцца працы на кампутары. Толькі ў адным месцы – дзіцячай бібліятэцы – прапануюцца паслугі па кампутарнаму набору тэкстаў.

***Ігар КІРЫН***




***Цягам мінулага году ў раёне нарадзілася дзяцей на 6,6% меней, чым у 2000г.***

Памёрла ж летась людзей амаль на 35% больш, чым нарадзілася. Яшчэ адзін адмоўны балянс у тым, што выехала з раёну на 24% болей, чым прыехала на пастаяннае жыхарства.

***Андрэй КУЗЬМІН***

ЧОРНЫ КАЛЯНДАР

# ...Як глухія зь сьляпымі

***Прайшло 1025 дзён ад выкраданьня экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, 883 дні – ад выкраданьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, 599 дзён таму зьнік Зьміцер Завадзкі. Роўна 4 гады споўнілася з дня ўтрыманьня за кратамі Андрэя Клімава.***

Зінаіда Ганчар атрымала адказ на свой ліст ад старшыні ўраду БНР на эміграцыі Івонкі Сурвіллы. Спадарыня Сурвілла, якая ўвесь час падтрымлівала намаганьні грамадзкасьці па высьвятленьні праўды ў справах зьніклых беларускіх апазыцыянэраў, вельмі негатыўна ацаніла стаўленьне да гэтай праблемы беларускіх і расейскіх ўладаў. "Я зразумела, што гэтая жанчына разумее і ведае ўсё, што адбываецца ў Беларусі. Я ёй вельмі ўдзячная", – сказала Зінаіда Ганчар.

Тым часам новы сьледчы ў справе зьнікненьня В.Ганчара Ў.Чумачэнка днямі запэўніваў спн.Зінаіду ў тым, што абавязкова апытае ўсіх датычных да справы асобаў. Трэба дадаць, што такія ж абяцаньні ёй даваў і папярэдні сьледчы С.Новікаў...

Пра марнае ліставаньне з пракуратурай краіны распавяла й Ірына Красоўская: "Я гэта лічу размовамі нямога з глухім. На кожны мой ліст яны адказваюць аднолькава: дзеяньні праводзяцца. І больш – нічога".

***Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***


Фота IREX

## КНІЖНЫЯ НАВІНКІ

**Беларускае грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыюш" выдала "Індэкс нараджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950гг. у Заходняй Сібіры".**

Кніга стала першым томам сэрыі "Беларускі індэкс рэпрэсаваных", якую рыхтуе "Дыярыюш". Мэта выданьня – аднавіць працэс рэабілітацыі ахвяраў савецкага тэрору, які быў спынены цягам апошніх гадоў. Аўтарам-складальнікам першага тому сэрыі стаў вядомы беларускі гісторык Ігар Кузьняцоў. У кнізе ўпершыню друкуецца сьпіс рэпрэсаваных асобаў – 1261 чалавек. Аўтар спрабуе прааналізаваць гісторыю станаўленьня карных органаў СССР і БССР.

Трэба нагадаць, што беларускія архівы дагэтуль недаступныя для дасьледчыкаў, таму І.Кузьняцоў адшукваў зьвесткі ў расейскіх архівах. Працягам кніжнай сэрыі стануць тамы "Ураджэнцы Беларусі, якія загінулі ў Маскве і Ленінградзе" і "Палякі і грамадзяне Польшчы, рэпрэсаваныя на тэрыторыі Беларусі ў 1939-1941гг." Акрамя таго, "Дыярыюш" плянуе стварыць "Індэкс рэпрэсаваных у Курапатах" паводле даведкаў аб рэабілітацыі, якія выдаваліся сваякам расстраляных асобаў.

***Вольга МІКАЛАЙЧЫК***

## ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ І ДРЫБІНЕ



***Ужо некалькі дзён раённая бібліятэка праводзіць акцыю пад дэвізам "Купі і падары кнігу".***

Зьвярнуцца да жыхароў горада з працягнутай рукой супрацоўнікаў бібліятэкі прымусіла катастрафічная сытуацыя з паступленьнем новай літаратуры. Па-іншаму, дарэчы, быць і не магло, бо "камплектацыя раёнаў" у гэтым годзе не прадугледжаная.

***Натальля КІРЫЕНКАВА***




***У студзені гэтага году зборная каманда вучняў мясцовых школ ня здолела ўзяць удзел у абласных спаборніцтвах па лыжных гонках.***

Прычына была своеасаблівая: не было лыжаў. На сёньня большасьць вучняў школ таксама ня мае магчымасьці езьдзіць і на каньках, паколькі іхны кошт значна перавышае месячны заробак бацькоў. А папулярныя ў мінулыя гады школьныя базы практычна зачыненыя, бо няма сродкаў на аднаўленьне сапсаванага інвэнтара...

***Ян СЬЦЮЖА***



**Рэдактар Генадзь СУДНІК**

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 7. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 14.02.2002 г. а 17.10